http://navinki.promedia.minsk.by

# НАВІНКІ

28 лютага - 12 сакавіка 2001 №4(42) Кошт свабодны

Мытня дабра не дае.
Стар. 2

Дыктатура пралетарыяту



Па-малдоўску
Стар. 3



Гід для тэрарыста-пачаткоўца
на стар. 4-5

Бульба



са смакам карто

плі
(комікс на стар.8)

1 сакавіка 1881 году бамбіст Ігнат Грынявіцкі забіў расейскага цара Аляксандра ІІ...



# ТЭРАРЫЗМ для «чайнікаў»

120 гадоў таму 1 сакавіка 1881 году наш братэла Ігнат Грынявіцкі запусьціў начынены дынамітам чайнік у браніраваны кабрыялет расейскага самадзержца Аляксандра II Вызваліцеля. У рэанімацыі памазаньнік Божы на хвілінку апрытомеў і спытаў у манашкі-паталягаанатама: «Il etait juif?» («Гэта быў жыд пархаты?», з фр.). «Беларус» – уздыхнула сястра міласэрнасьці і памяняла цару «утку». Ад нечаканасьці аўтар Маніфэсту 1861 году пукнуў крывёю ды спусьціў пакутніцкі дух. Манашка забілася ў гістэрыцы на грудзях аўгусьцейшай асобы. Яна так і не змагла дараваць сабе, што абраніла жорсткую праўду. Прыйшоўшы ў сваю келью, паслушніца села за дзёньнік:

«Мілы дзёньнік, сёньня ў маім жыцьці адбыліся дзьве падзеі. Я выпадкова пабачыла ў нужніку станок конюха Амбросія, прасьці Госпадзе. Па-другое, на маіх руках ад бомбы беларускага тэрарыста-народніка (здаецца, яго звалі Ігнатам) аддаў душу Яго Вялікасьць. Забаўная гэта рэч, палітычны тэрор. У Біблії напісана, што першым тэрарыстам быў сын Адама і Евы – Каін. Бог прыняў падносіны яго брата Абэля, які быў жывёлагадоўцам, а ад падарункаў аграрыя Каіна адмовіўся. (Верагодна, божанька, як і я, ня любіць вэгетарыянскага).

Першы падзел людзей на выбраных і ўбогіх скончыўся бунтам і забойствам. Кажучы як на духу, з пакон веку пра арганізатараў палітычных забойстваў, што адбываліся пад патранажам трону, ішла добрая слава. Наадварот, тым плебеям, хто браўся за меч, абараняючы свае інтарэсы супраць моцных гэтага сьвету, шанцавала меней.

На стар. 4

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 5.03.2001г., а 00.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №231

## Як разумЕць

### (з пункту гледжаньня пэдагогікі)

**Бамбардзіроўкі Ірака амэрыканскімі войскамі**

Вядомы псыхагісторык-пэдафіл Дэ Мос, які калісьці працаваў дзетсадаўскім сторажам, апісвае такі пэдагагічны выпадак. У дзіцячым садку зьявіўся хлопчык Садам Х. Яго можна было ахарактарызаваць як пэдагагічна запушчанае дзіця, аб чым сьведчыла завышаная пераацэнка, заносчывасьць, супрацьпастаўленьне сябе калектыву, бацькам і пэдагогам. Каб паставіць пад кантроль яго псыхічныя і сэксуальныя працэсы, дырэктар установы Натаў вырашыў выкарыстаць г.зв. навязьлівы стыль выхаваньня. З гэтай мэтай хлопчыка публічна паролі розгамі, пазбаўлялі яго салодкага і пугалі жудаснай мышкай Мікі Маўсам.

Калі Садам парушаў каранцін або гуляў падчас ціхага часу ў набор «Юны хімік-атамшчык», выхавацелі пагражалі яму пальцам: «Глядзі, Садзік, прыйдзе жудасны Мікі Маўс і кропкава пакусае тваё дзіцячае цела». Адміністрацыя спадзявалася, што экзэкуцыі выпрацуюць у Садама пазытыўныя якасьці і наглядна пераканаюць астатніх дзетак не парушаць унутраны распарадак, зацьверджаны Натавым. На жаль, рэзультаты былі адваротныя. У хлопчыка пачалі фармавацца нэўрозы, што прывяло да непрадказальных учынкаў. Астатнія дзеці ўбачылі ў Садаму нефармальнага лідэра, малявалі яго партрэты, употайкі ад выхавальнікаў давалі яму салодкае. Усё гэта скончылася трагічна: дзеці аб'ядналіся вакол Садама, і калі дырэктар неяк зноў пачаў пароць іхнага куміра,удушылі Натава скакалкамі і пахавалі ў пясочніцы.

**Выключэньне дэлегацыі ВС 13-га скліканьня з парлямэнцкай асамблеі Эўропы.**

Аднаго разу ненажэрнае лібіда зашвырнула Ле Моса ў ПТВ, дзе ён уладкаваўся піянэрважатым. Бічом хабзы быў нехта Сямён Ш. Хлопчык адносіўся да катэгорыі сацыяльна запушчаных дзяцей. Бацька Сямёна (першай лэдзі ў сям'і не было) піў і тыраніў сына, за што атрымаў у бабак каля пад'езда паганяла – Дыктатар. Дзякуючы бацьку-сатрапу Сямёна ўсе шкадавалі і заплюшчвалі вочы на яго дурныя адзнакі. Гэта ўносіла ў жыцьцё школы дэзарганізацыю і хаос. ПТВ было вымушанае быць у курсе ўнутрысямейных разборак. Уяўленьне падлетка аб сябе зьяўлялася недастаткова абагульненым і, як правіла, грунтавалася на выпадковых учынках і фрагмэнтах, кшталту, мой бацька – бухарык, таму ўсе павінны мне дапамагаць. Каб разьвіць у дзіцяці якасьці прыстасаваньня, дырэктар Севярынаў вырашыў ужыць мэтад сацыялізацыі. Было вырашана выключыць Сямёна са школы. Дырэктар меркаваў, што гэта справакуе ў Сёмы разьвіцьцё комплексаў незадаволенасьці сабой, выпрацуе самастойнасьць і прымусіць абуздаць бацьку. Вынік экспэрымэнту быў супярэчлівы, бо падлетак, фізычна ня здольны самастойна мяняць сытуацыю ў сям'і, зьбег ад бацькі ў Вільню, дзе пайшоў на вакзальную панэль.

**Сьвяткаваньне 8 сакавіка.**

Неяк Ле Моса накіравалі фізруком у піянэрскі лягер. Сярод піянэраў выдзяляўся хлопчык Барыс, які вельмі хацеў стаць трансвэстытам і пазнаць сэкс з пасіўнага боку. Ле Мос заўважыў, што каб пазнаёміцца з ролевымі функцыямі жанчыны, Барыс выкарыстоўвае стары этнічны прыём пэдагогікі – гульню. Барыс прымушаў клясу гуляць у дзень 8 сакавіка. Хлопцы сымбалічна выконвалі абавязкі жанчыны, дзяўчынкі наадварот маглі, як самец нічога не рабіць. Спачатку гэта дапамагала падтрымліваць стабільнасьць у групе (дзяўчынкі кампэнсоўвалі штодзённае дзёрганьне за косы). Аднак Барыс яўна перагнуў палку. У выніку дзяўчаты запатрабавалі, каб раўнапраўе дзейнічала і ў астатнія дні. Гэта падарвала мікрасьвет у атрадзе. Прыйшлося выключыць Барыса зь лягеру, а дзяўчынкам давесці, што дзеля стабільнасьці яны, як будучыя маці, павінны ахвяраваць свабодай.

# Мытня дабра не дае

## Рэдкі апазыцыянэр пазьбягае нагляду беларускіх мытнікаў

Вы былі хоць раз у практоляга? Гэта звычайна такі вялізны дзядзька, які гаворыць ахрыплым баском: «Нагніцеся. Рассуньце ягадзіцы». Потым апранае гумовыя пальчаткі і пачынае сваю цёмную справу.

А зараз уявіце сабе, што гэта усё адбываецца ў прысутнасьці 3-4 панятых і брыгады мытнікаў... Не, гэта ня брэдні. Гэта тое, што чакае засьвечанага апазыцыянэра на беларуска-польскай мяжы.

На мінулым тыдні 22 лютага на мытні Брузгі былі падвергнутыя асабістаму дагляду старшыня Гарадзенскай БСДГ Віктар Сазонаў і лідэр Гарадзенскай АГП Алесь Пагуляеў, якія вярталіся з канфэрэнцыі, якую ў Беластоку ладзіў Нацыянальны Дэмакратычны інстытут ЗША. І прашу заўважыць, што абшукалі ня толькі машыну, на якой апазыцыянэры вярталіся дахаты, але ж і непасрэдна іх. І гэта не канец! 27 лютага, на той сама мытні такі самы інцыдэнт чакаў і надзею беларускіх дэмакратаў, Каштуніцу нашай апазыцыі Сямёна Домаша, калі ён ехаў у Польшчу.

Калі пагартаць кодэкс, то становіцца ясна, што шукалі ў Домаша, а менавіта забароненыя: «...газэты, часопісы, аўдыё- і відэаматэрыялы, якія могуць прынесьці шкоду палітычным і эканамічным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, яе дзяржаўнай бясьпецы, здароўю і маральнасьці грамадзян». Мытнікі строга прытрымліваліся падпісанага нашым пладавітым Прэзыдэнтам загада №7, які рэгулюе «парадак перамяшчэньня фізычнымі асобамі праз мытную мяжу РБ тавараў, не прадназначаных да вытворчай ці іншай камэрцыйнай дзейнасьці».

Але ж што шукалі ў апазыцыянэраў? Наркотыкі? Не. Зброю? Наўрад ці. Хучэй за ўсё шукалі грошы. Зялёныя амэрыканскія хрусткія паперкі, званыя «грантамі». Залатыя часы прыходзяць на Гарадзеншчыну. Калі да гэтуль студэнты, настаўнікі і ўрачы маглі зарабляць толькі з дапамогай кантрабанды гарэлкі і цыгарэт брацкаму польскаму народу, то зараз праезд назад ня будзе «халастым». За памяркоўны працэнт іхныя страўнікі і прамыя кішкі запоўняць шчыльна ўпакаваныя ў цыляфан «грыны».

І зноў, дзякуючы загадам нашага прадбачлівага Прэзыдэнта, вернецца дабрабыт на Заходнюю Беларусь●

**Маёр Пронін**




***Напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі пачасьціліся выпадкі нелегальнага правозу валюты на тэрыторыю краіны. Дарма! Бо мытныя органы заўсёды на варце!***

**P.S.** Капітан падаткавай інспэкцыі павярнуўся да вакна: «Нешта надта брудныя гэтыя грошы, гаўном сьмярдзяць. Даведайся, ці не замяшаная ў гэтым апазыцыя». Вечарэла.

## КрымінАл

### Каб памяталі, гады

Ды Капрыё дастаў сьвет сваёй салодкай лыбай, Рыкі Мартын задрючыў мэляманаў канвульсіямі свайго тазу, а Цэрэтэлі затрахаў Маскву сваімі скульптурамі. Адзін прыклад: сёньня кожны турыст з дурным густам, які наведвае першапрастольную, абавязкова фатаграфуецца на Манежцы на фоне цэрэтэлеўскіх канёў зь непрапарцыйнымі яйкамі. Уяўляеце падзеньне нораваў: раней ехалі ў Маскву да маўзалею, а зараз да конскіх мудзяў. Таму ня дзіўна, што патрыятычная грамадзкасьць Расеі патрабуе разбавіць вадаспад цэрэтэлеўскага манумэнталізму і для пачатку перавезьці з Бэрліну манумэнт савецкага салдата-вызваліцеля. Каменны статуй салдата зь дзяўчынкай на руках, якую, згодна байцы, ён быцам бы выцягнуў з-пад абстрэлу, павольна асядае ў Трэптаў-Парку. Нямецкая дзяржава час ад часу плямбіруе яго, аднак грошы на рэстаўрацыю даваць не зьбіраецца. Для імпарту помніку не хапала толькі фармальнага поваду, і нарэшце ён зьявіўся. Як вядома, кумірам на сёньня ў Расеі стаў палкоўнік Буданаў, які згвалціў і забіў чачэнскую дзяўчыну. У калектыўнай сьвядомасьці гвалтаваньне праціўніка дэ-факта прызнаецца за вышэйшы акт патрыятычнага служэньня Радзіме. Бэрлінскі ж помнік можна будзе паставіць у Маскве як манумэнт невядомаму салдату чачэнскай кампаніі. Такім чынам, Лаліта на руках воіна будзе значыць не нямецкую, а чачэнскую тынэйджэрыху, якую невядомы расейскі кантрактнік цягне на сенавал, а потым скрамсае мячом у капусту. Новая акутальная інтэрпрэтацыя, якая спалучае дарэчы патрыятычную і эратычную тэматыкі, надасьць бэрлінскаму істукану новае дыханьне і натхніць навабранцаў на новыя гераічныя акты гвалтоўнай дэфляцыі.

# Міжнародная панарама

**МЭКСЫКА**
З 24 лютага працягваецца мірны марш, ініцыяваны Сапатысцкай Арміяй Нацыянальнага Вызваленьня (EZLN), у якім прынялі ўдзел 24 камандантэ EZLN, а таксама сотні левых актывістаў з Заходняй Эўропы і ЗША. Марш пройдзе праз 12 мэксыканскіх штатаў і 11 сакавіка павінен дасягнуць Мэхіка. Сапатысты патрабуюць вываду урадавых войскаў з рэгіёну, вызваленьня ўсіх палітвязьняў і прызнаньня правоў індзейцаў.

**ІТАЛІЯ**
3 сакавіка ў Трыесьце некалькі тысяч дэманстрантаў пускалі ў паліцэйскія шэрагі рознакаляровыя дымы і сьвяточныя ракеты. Гэтак распачаўся саміт міністраў Навакольнага асяродзьдзя краінаў Вялікай Васьмёркі (G8) па пытаньнях кліматычных зьменаў. Гэтыя перамовы выкліканыя адмовай ЗША абмежаваць выкіды $CO_2$ у атмасфэру паводле дамовы 1997 году ў Кіёта (Японія).

**РАСЕЯ**
Ужо трэці тыдзень працягваюцца акцыі супраць вайны ў Чачэніі ў Маскве, Піцеры, Екацерынбургу і інш. Галоўныя лёзунгі: «Свабоду Чачэніі!», «Салдаты – да хаты, Пуцін – на вайну!» З-за «патрыятычнай» цэнзуры ніводная з акцыяў не патрапіла на палосы газэт альбо на каналы расейскага ТБ.

**ІНДЫЯ**
5 сакавіка тысячы будысцкіх манахаў і студэнтаў прайшлі па вуліцах Індыі і Нэпалу, пратэстуючы супраць разбурэньня старажытных статуяў Буды талібскім рэжымам Афганістану. З асуджэньнем дзеяньняў «Талібану» выступілі й кіраўнікі шэрагу ісламскіх краінаў.

**ЎСХОДНІ ТЫМОР**
1 сакавіка ў сталіцы Дылі адбылося адкрыцьцё Цэнтральнага фінансавага офісу будучай незалежнай дзяржавы. Адначасова ў краіну прыбыла дэлегацыя Сусьветнага Валютнага Фонду для перамоваў наконт новай нацыянальнай валюты. Тыморцам такі кантроль не спадабаўся і яны правялі некалькі акцыяў пратэсту, што скончыліся беспарадкамі.

**УВЕСЬ СЬВЕТ**
8 сакавіка ў Міжнародны жаночы дзень жанчыны й дзяўчыны з 65 краінаў сьвету правядуць Глябальны страйк, пратэстуючы супраць сэксізму, расізму, узроставай і любой іншай дыскрымінацыі, і патрабуючы роўнай аплаты працы ў незалежнасьці ад полу, а таксама платы хатнім гаспадыням.

**НЯМЕЧЧЫНА**
3 сакавіка тысячы людзей па ўсёй краіне выйшлі на вуліцы, пратэстуючы супраць узмацненьня правага экстрэмізму. Сёньня ўзровень антысэміцкіх і антыімігранцкіх акцыяў павысіўся ў параўнаньні з усім пасьляваенным пэрыядам. Шмат немцаў ня хочуць прызнаць, што экстрэмізм прадстаўляе пагрозу ня толькі для чужаземцаў і яўрэяў, але й для нямецкай грамадзкасьці. Аднак забарона ўрадам Нацыянальна-Дэмакратычнай Партыі стварыла вакол нацыстаў арэол пацярпелых за перакананьні і атрымала адваротны эфэкт: колькасьць членаў вырасла з адной да сямі тысяч.

# Мой пад'езд – мая крэпасьць!




Калі сталічныя ўлады вырашылі экіпіраваць усе жылыя дамы Менску сыстэмай «зачынены пад'езд», наўрадці яны здагадваліся, што тым самым вынайшлі прынцып панацэі ад усіх хваробаў беларускага соцыюму. Здавалася б, справа йдзе толькі аб такім няхітрым прыстасаваньні як жалезныя дзьверы з кодавым замком і дамафонам. Але ўслухаемся ў мэлёдыю прапаганды златавустаў з ЖЭСаў: «Усяго 40-50$ з рыла, і ў вашых пад'ездах запануюць цяпло, чысьціня, а галоўнае, бясьпека».

Як і ўсё геніяльнае, філязофія дамафону надзвычай простая: калі зараз ў нашых пад'ездах разгул злачыннасьці і антысанітарыі, дык гэта таму, што шмат народу швэндаецца дзе-попадзя безь якогасьці на тое дазволу. Прывыкшыя да цемрашальства кшталту «усё вакол народнае – усё вакол маё», ЧУЖЫЯ працягваюць гвалтаваць «нічыйную» прастору, якой, на іхную думку, дагэтуль зьяўляецца тэрыторыя нашых лесьвічных пляцовак і ліфтаў. Каб прывіць інвалідам камунізму высакародны рэфлекс «сваё-чужое», няма лепшага сродку, як даць ім фізычна адчуць мяжу паміж гэтымі паняцьцямі. Ня здолеўшы пакакаць першы, другі, трэці раз у любімым пад'езьдзе насупраць раённага ўнівэрсаму, які-небудзь хрон уласнай дупай зразумее прынцып прыватнай уласнасьці, а таксама бамжы, нішчыя, падлеткі, злодзеі і сэксуальныя вычварэнцы, перавыхаваньню якіх павінна паспрыяць новая сыстэма ўваходу ў жылыя будынкі.

Але, скажуць скептыкі, той самы дэгустатар «Товарища Бендера» гіпатэтычна пасьпяхова адкладзе галдэшу акурат перад мадэрнізаванымі дзьвярыма, а энэргічны пэдафіл зможа і на сьвежым паветры адтарабаніць банду тынэйджэраў, выгнаных гарланіць Летава за межы пад'езду. Каб унікнуць і гэтай небясьпекі, уладам трэба быць пасьлядоўнымі да канца і пашырыць прынцып дамафону на ўсе ўзроўні грамадзкай прасторы. Першым крокам было б увядзеньне сыстэмы «зачынены мікраараён», ужо пасьпяхова выпрабаванай спачатку ў каляніяльным Кітаі (эўрапейскія кварталы мелі муры з шыльдамі «Уваход кітайцам і сабакам забаронены»), потым у Паўднёвай Афрыцы пры апартэідзе (сыстэма пропускаў у белыя сэктары), а зараз у фэшэнэбэльных кварталах Лацінскай Амэрыкі (Рыо, Сан-Паўлу) і ЗША (Лос-Анжэлес). Усяго 40-50$ з рыла, і ваш раён акружае элегантная агароджа, аздобленая манчжурскімі калючкамі, сьмярдзючым вадзяным ровам і дамафонам, якія выратуюць вас ад нязваных гасьцей. Пытаньне «Зь якога раёну?» перастане быць дэтанатарам падлеткавай злачыннасьці і ператворыцца ў простую формулу ветлівасьці, кшталту «Як здароўе?». Вось ідэальная гарантыя вашай бясьпекі, спакою і чысьціні на вашай вуліцы. Жыхарам выдаюцца кодавыя ключы, а калі хтосьці пажадае завітаць да вас у госьці, яму дастаткова проста набраць на дамафоне ваш нумар. Пускаць гэтага гандона ці не – вырашаеце толькі вы ●

**Хведар Залескі**



## «Жук ня выдасьць, Лука ня зьесьць».

**«Толькі нікому не кажыце! Бо галаву адарвем!» – відаць з такімі пагрозамі зьвярталіся «сябры адной зь беларускіх радыкальных мілітарных арганізацыяў» да журналістаў, што прысутнічалі на падпольных партыйных хрэсьбінах 23 лютага. І калі в.а.рэдактара *Нашай Нівы* А.Дынько разумна пасьледаваў пажаданьням «падпольшчыкаў», зарэтушаваўшы нават твары ўдзельнікаў (фота 1.), то для некаторых зь першага разу не дайшло. Гаворка ідзе вядома пра галоўнага рэдактара *Нашай Свабоды* Паўла Жука, вядомага аматара праўды. Той ня толькі здаў Беларускую партыю свабоды (а гэта была менавіта яна), але й паведаміў, што хрэсьбіны былі прыўрочаныя ўгодкам калябаранцкай «Беларускай краёвай абароны» (фота 2.). Так трымаць, сп. Жук!**

# КВН замест «Дабэрмана»




Замест кішак і адраваных галоў – тупыя жарты й фэйс Маслякова

Некалі ў дзяцінстве я памятаю, як глушылі нам у Горадні польскае тэлебачаньне, калі там пачыналі ў начным сэансе цыцкі жаночыя паказваць. Ішоў час, і я ўжо сваёй дурной башкой падумваў, што ніколі такога сораму ня ўбачу (маю на ўвазе заглушваньне). І вось чарговы раз уся Беларусь засела перад сваімі тэлевізарамі з мэтай паглядзець нашумеўлы францускі баявік «Дабэрман». На гэты раз сваім гледачам такі кайф абяцала НТВ. Але ж якое зьдзіўленьне было ў людзей, калі замест крывавых разборак, кішак і мазгоў, якія разьлятаюцца па сьценах, блакітны экран прадэманстраваў нам... КВН. Вось табе й замена. З чаго б гэта?

А ўсё вельмі проста. Францускі мастацкі фільм «Дабэрман» забараняецца да паказу на тэрыторыі РБ (так зараз называецца наша краіна – **заўвага аўтара**) загадам РЭКпПППГіЖ (гэта не хвароба, хоць назва вельмі падобная, гэта Рэспубліканская Экспертная Камісія па Прадухіленьню Прапаганды Парнаграфіі, Гвалту і Жорсткасьці – **заўвага аўтара**). І калі расейцам пашчасьціла глядзець круты баявік, то памяркоўныя беларусы клялі на чым сьвет стаіць Маслякова і трыццацігадовых крыўляк-»студэнтаў».

Першае, што радуе: у нашай цэнзуры зьявілася пачуцьцё гумару. Згадзіцеся, замест КВНу маглі б якую галімую мэлядраму паказаць. Шкада толькі, што бяззубы масьлюкоўскі КВН ператварыўся ў свайго кшталту адпаведнік тампону «Тампакс», якім рэжым затыкае ідэалягічныя дзіркі, зь якіх падцякае ●



# Дыктатура пралетарыяту па-малдоўску

## Увесь сьвет уздрыгануўся ад страшнай навіны: у Кішынёве да ўлады прыйшлі камуністы! Як жа выглядае Малдова сёньня?..

*Не пасьпелі ў Малдове абвесьціць рэзультаты парлямэнцкіх выбараў, як камунякі прыступілі да «чырвонага тэрору». На здымку замучаны бальшавікамі прадстаўнік беларускіх дэмакратычных сілаў, які быў назіральнікам на парлямэнцкіх выбарах.*





*Савет Народных Камісараў Малдовы прымае дэкрэт «Аб слабым поле», паводле якога праводзіцца абагульненьне ўсіх жанок і дзяўчын. Цяпер кожны член кампартыі мае права заводзіць сябе неабмежаваную колькасьць жонак.*

*Адной зь першых мераў маладога савецкага ўраду Кішынёва стала ўвядзеньне г.зв. «віннай разьвёрсткі», паводле якой кожны селянін мусіць здаваць малдаўскай Чырвонай арміі ўсе лішкі віна й сьпіртных напояў, а таксама выконваць пастаўкі харчовых прадуктаў.*





Згодна канцэпцыі МУС Расеі гэтак мусілі выглядаць царскія гарадавыя напачатку XXI ст.

# Мянты і імпэрыя

## Заказчыкі з расейскага МУС не шкадуюць грошай на свой прыстойны імідж

Ментаўскія сэрыялы, што запаланілі былі тэлеэфір, ужо перасталі выклікаць захапленьне сярод шырокіх спажывецкіх мас. Што нармальна, бо саму тэму нельга назваць новай: усе гэтыя «Вуліцы разьбітых ліхтароў», «Мянты», «Агенты нацыянальнай бясьпекі» і г.д. былі акуратненька скапіяваныя з заходніх паліцэйскіх сэрыялаў з копамі-супэрмэнамі, якія паказальна караюць дрэнных хлопцаў ды абараняюць добрых (але чамусьці слабых) герояў. Вядома ж, быў і ў нас уласны гонар – «Сьледзтва вядуць знаўцы», напрыклад, але ўсё ж час на двары іншы, і ад сьвядомых савецкіх міліцыянтаў, якія жывуць з маральным кодэксам будаўніка камунізму ў душы, могуць атрымаць экстаз хіба што прыхільнікі нейкай пурытанскай таталітарнай сэкты. У духу ж постсавецкага рэалізму сэрыяльных герояў-праваахоўнікаў троху «адэмакрацілі»: праўдзіва назвалі мянтамі, прымусілі піць на экране (як у жыцьці) гарэлку стаканамі, паказалі «нехарошых» начальнікаў і звычайны бардак.

Але дамарошчаным расейскім «фабрыкантам мрояў» хочацца справіць яшчэ й прыстойную радаслоўную для сваіх пітомцаў. Аказваецца, лепшыя якасьці «мянтоў» дасталіся ім у спадчыну не ад кагонебудзь, а ад пародзістых царскіх лягавых, пра што нам і апавядаюць борзыя кіналетапісцы ў новым сэрыяле «Імпэрыя пад ударам». Злобныя рэвалюцыянэры (сапраўдныя крыважэрныя монстры, хворыя на паталягічныя жарсьці да забойстваў і гвалту) з маніякальнай упартасьцю хочуць разбурыць гэтую самую Імпэрыю. Але заўсёды на іхным шляху паўстаюць бравыя рабяты, высакародныя рыцары з «ахранкі», якія нібыта сышлі з карціны Васьняцова (які, дарэчы, маляваў сьцягі для «чорнай сотні») «Тры багатыры»: Яўграфі Пятровіч з прасьцецкай хітрынкай ды цяжкімі кулакамі, аматар бездаглядных дзетак, зь якіх выхоўвае юных асьведамляльнікаў паліцыі (ці не ў яго стырыў гэтую ідэю Фэлікс Эдмундавіч?), – вылітыя Ільля Мурамец і дабрыня Нікіціч у адным фляконе. А паручнік Іван Карлавіч Берг – гэта проста Алёша Паповіч нейкі, толькі сьціплы. Ён спалучыў у сабе інтэлект Шэрлака Холмса і прадбачлівасьць маёра Проніна. Ён і ў хіміі рубіць, і з мэтай вонкавага назіраньня здольны на высокае рамантычнае пачуцьцё да дзяўчыны.

> За часамі «дэмакратыі» й «свабоднага рынку» неяк хутка забыліся старарэжымныя клішэ наконт царскай тайнай паліцыі – «ахранкі».

Яшчэ пару-тройку сэрыяў – і можна сапраўды пераканацца ў высакароднасьці царскіх жандараў і крыважэрнасьці бандытаў-рэвалюцыянэраў. Ня будзем сьцьвярджаць, што рэвалюцыянэры, зь якімі гэтак зацята змагаліся верныя бобікі цара-бацюшкі, былі анёлкамі. Між тым, варта прыгадаць вам, мілыя аматары сэрыялаў, што паліцыя тых часоў была такім поўным адстоем, што ніводзін нармальны афіцэр, які прытрымліваўся «паняцьцяў» дваранскага кодэксу гонару, ня мог апусьціцца да службы ў мянтоўскім ведамстве.

Дарэчы, само слова «мент» зьявілася акурат у дарэвалюцыйным турэмным арго і паходзіла, відаць, ад нямецкага «мэнтар» – «выхавальнік». Наколькі сёньня мас-мэдычным выхавальнікам атрымаецца маніпуляваць нашай сьвядомасьцю ды прывіць нам любоў да мянтоў і імпэрыі, перш за ўсё залежыць ад нас саміх ●

**Камісар Рэкс,**
лягавы

## НарОдныя гуляНьні

### Сіні Халодны Беларускі Перац

Упярвыя за многа лет абстаяцельства слажылісь так, што я прысуцтвавал на канцэрце... савяршэнна трэзвым! І этат факт, безуслоўна, атразіўся на маём васпрыяціі праісхадяшчэга как на сцэне, так і ва ўсём памяшчэніі клуба «Чатыры Аранжоўкі» па ходу ачэрэднога фесьціваля так называемай эксьперымянтальнай музыкі «Сіні перац».

Уцэлам сэйшан можна назваць парадам ударных інструментаў. Стучалі ўсе, ва што толька хто мог. Дажэ паэт В. Жыбуль, лоўка камуфліруя парочнасьць пад калдырнасьць, выступаў у саправаждзеніі саўмеснага звучанія малатка і жалезнага яшчыка для сьцеклатары. Очэнь прыятна атмеціць, што сьціхі чыталісь на езыке, блізкам к саўрыменнаму беларускаму, і што срадзі прысуцтвуюшчых, асобенна маладых барышань, эта імела очэнь бальшой усьпех.

Некатарыя музыканты пыталісь задзействаваць у сваіх праектах бальшую старую калоду с клавішамі і ручкамі, но, паскольку ніхто кроме Жан-Мішэль Жара толкам ня знает, как ей пользавацца, атлічыцца ў аснаўном сталісь другімі срэцтвамі. Інагда палучалась, інагда неабкураная часьць публікі нямнога скучала. Удзівіла каманда пад названіем АСТРАЛ (Рэчыца) (пачці што «Спартак» (Шклоў)), унешшая ў атмасьферу медзітацый неажыданную струю здаровага хэві-метала.

КНЯЗЬ МЫШКИН, благадара каторому, насколька я поняў, мерапрыяціе састаялась, вышлі позна, бяз клавішных калод, і ігралі очэнь мала – скромныя... Не абашлось, кстаці, і бяз Музыкі: кагда ўжэ дасідзеўшыя да канца началі задумывацца аб графіках хаждзенія абшчэственнага транспарта, на сцэну вышла група ПЛАТО. Ну, чэсна гавара, канцэрт і весь быў харошы, а глаўнае – напіцца ў этат вечар мне ўсё-такі ўдалось!

**Зялёны Захер,**
музыкальны крыцік

## МЫ і «пОПы»

### «Хто зь беларускіх музыкаў можа выкарыстаць імідж Мэрлін Мэнсана?»



**Стас, настаўнік:** «Я лічу, што такіх адмарозкаў, як Мэнсан, нашы «зоркі» проста ня ў стане садраць. Кішка тонкая!»



**Мэрылін, поп-сьпявак:** «Пакіньце мой імідж у спакоі. Інакш я настучу на вас Антону ЛаВэю».



**Вальжына, студэнтка:** «Ня ведаю... Мяне нешта мала вабіць юнісэкс. Хаця...».



**Лёлік, рэдактар палітаддзелу газэты *Навінкі*:** «Цалкам магу ўявіць сабе ў якасьці беларускага Мэнсана вакаліста гурта DEVIATION. Варта яму толькі прыляпіць гумавыя сіські – і выліты Мэрылін».

# Бацькі і нарката

На мінулым тыдні *Наша Свабода* надрукавала зьверскі прагон пра тое, як адрозьніць, ці ўжывае падлетак наркотыкі ці алькаголь. Брутальнасьць чарговых парадаў для хатніх гаспадарак у тым, што практычна любая дэвіяцыя ў характары ці паводзінах паднагляднага дзіцяці цяпер можа трактавацца як вынік ужываньня наркотыкаў з адпаведнымі наступствамі для няшчаснага. Але ж ці ўтрымаецца нармальны падлетак ад таго, каб час ад часу пасрацца з бацькамі, разьбіць суседу шыбу, стырыць грошы і г.д.? Пасьля фашыстоўскіх разгонаў *Нашай свабоды* кожны непаўналетні двойчы на дзень будзе атрымліваць рамянём па задніцы, як толькі ягоныя паводзіны выйдуць за пракруставы двуспальны ложак Паўла Жука.

Але самае страшнае, што наркаманія пранікла ня толькі ў асяродак падлеткаў ды іншай швалі. Газэта гнюсна замоўчвае страшэнны, але праўдзівы факт: на наркаманію захворваюць усё больш дарослых ва ўзросьце ад 40 да 60 гадоў. Пакуль вы чытаеце артыкул, вашыя бацькі могуць умазвацца ханкай проста на працы або шмаліць касяк на лесьвічнай пляцоўцы. Як адрозьніць, ці ўжываюць вашыя бацькі наркотыкі? Прапануем вам адказаць на пытаньні нашага нескладанага экспрэс-тэсту, складзенага на аснове доўгатэрміновых назіраньняў за бацькамі-наркаманамі.

УВАГА! Калі хоць па адным з пунктаў тэсту вашыя бацькі праяўляюць падазроныя паводзіны, не марнуйце часу. Неадкладна выклікайце хуткую дапамогу і здавайце іх у псыхіятрычку. Два тыдні адсутнасьці продкаў гарантуюць вам файны адпачынак і спакой у сям'і ●

**Тацяна Ўмазанік**

ЦІ ЎЖЫВАЮЦЬ ВАШЫЯ БАЦЬКІ НАРКОТЫКІ?
ЭКСПРЭС-ТЭСТ *НАВІНАК*.

| падазроныя паводзіны | магчымыя прычыны |
|---|---|
| Позьні прыход з працы, няўцямныя тлумачэньні "дзе быў" | Можа быць выкліканае запаркай на працы, бухлом з калегамі, візытам да каханкі/каханка. Але можа быць і наступствам ужываньня наркотыкаў. |
| Бацькі запіраюцца на ноч у пакоі, займаюцца там незразумелымі справамі | Таямнічасьць у паводзінах можа быць выкліканая падлікам грошай ці вывучэньнем пэдагагічных мэтодыкаў. Магчыма, яны проста трахаюцца. Але магчыма, за зачыненымі дзьвярыма яны ўжываюць наркотыкі |
| Страта цікаўнасьці да жыцьця, марнаваньне большасьці часу на канапе за чытаньнем *Нашай свабоды*. | Можа быць выкліканае стомленасьцю на працы, узроставымі комплексамі і прагай спакойнага жыцьця. Але можа быць праявай стану наркатычнага ап'яненьня. |
| Празьмерная актыўнасьць, наведваньне апазыцыйных мітынгаў. | Тлумачыцца трывіяльным палітычным інфантылізмам або празьмерным чытаньнем *Нашай Нівы*. Але хутчэй за ўсё, зьяўляецца вынікам ужываньня наркотыкаў (асабліва экстазі) |
| Адсутнасьць паразуменьня з вамі, гістэрычная рэакцыя на Вашы паводзіны, параноідальныя спробы праверыць вас з дапамогай нарка-тэстаў. | Вельмі небясьпечная праява! Можа быць выкліканая чым заўгодна. Але можа зьяўляцца (і хутчэй за ўсё зьяўляецца) дакладнай прыкметай ужываньня бацькамі наркотыкаў. |

# Монстры вылазяць з кішэні

## *Мульцяшныя пакемоны пагражаюць бясьпецы Беларусі!*




### Дасье *Навінак*

**«Пакемоны»** (ад англ. pocket monsters – кішэнныя пачвары) зьявіліся на сьвет чатыры гады таму. Прыдумаў гэтых японскіх монстраў чалавек, якога завуць Сатошы. Кажуць, калі ён быў маленькім, але ўжо не зусім дэбілам, ён саджаў у вялікі шкляны слоік усялякіх розных павукоў і з задавальненьнем назіраў, як яны мочаць адзін аднога. А пасталеўшы, заснаваў кампанію «Нітэндо», якая пачала выпускаць надзвычай жыцьцясьцьвярджальную цацку: у ёй два ўродцы-пакемоны «мачылі» адзін аднога да пераможнага канца. Гулька мела шалёны посьпех. Гэтак і ўзьнікла ідэя мультсэрыялу, якая выклікала сярод дзяцей хваравлівую «пакемонаманію».
Сюжэт мультфільму надзіва тупы. Двух пакемонаў-аксакалаў кланіравалі, і адзін злобны клон вырашыў заваяваць сьвет, для чаго кланіраваў зь сябе сабе падобных. Тут-та й пачынаецца барацьба дрэнных і добрых монстраў не за жыцьцё, а за гуманістычныя ідэалы чалавецтва (дарэчы, на баку «станоўчых» пакемонаў змагаецца адзіны ў мультфільме гуманоід – хлопчык Эш). Кожны пакемон валодае незвычайнымі ўласьцівасьцямі: напрыклад, лепшы сябар Эша жоўты ўрод Пікачу можа ў выпадку нападу абараняцца электраразрадам у 10 000 вольт. Усяго гэтых мутантаў у сэрыяле фігуруе 251 штука. Разборкі між імі ідуць па правілах вядомай дзіцячай гульні «Камень, ножніцы, папера».
Сэрыял пра пакемонаў заняў першае месца сярод дзіцячых тэлевізійных сэрыялаў у Японіі, ЗША, Нямеччыне і іншых краінах. Агромнымі тыражамі прадаюцца коміксы, налепкі, цацкі, кампутарныя гульні і іншая прадукцыя з пакемонамі. Сёньня брэнд «Пакемон» каштуе 5 млрд. даляраў.

Чарговы раз мы сталі аб'ектам наварочанай імпэрыялістычнай інвазіі з боку сусьветнага цэнтру па барацьбе зь Беларусьсю. На гэты раз крыніцай небясьпекі і галоўнай зброяй агрэсара зьяўляюцца «пакемоны» – кішэнныя монстры, героі аднайменнага мультсэрыялу, які круцяць зараз па ОРТ чатыры разы на тыдзень. Бачу ўсьмешку на вуснах некаторых недасьведчаных чытачоў-гледачоў: «Якую пагрозу могуць несьці нашаму канстытуцыйнаму парадку гэтыя мілыя ўродцы?»
На самой справе «пакемоны» – найноўшая псыхалягічная зброя масавага паражэньня. Палігонам для выпрабаваньня «пакемонаў» сталася Японія. Каля тысячы малалетніх японцаў пацярпела ў сьнежні мінулага году ад «эпідэміі тэлеэпілепсіі». Пасьля прагляду па такійскім тэлебачаньні чарговай сэрыі «Пакемонаў», дзеці кідаліся на зямлю і біліся ў сутаргах, якія нагадвалі эпілептычныя. Больш за 600 сапылёў былі шпіталізаваныя.
Так што злачынныя прошукі Дональда Дака ды Мікі Маўса – апосталаў амэрыканскага ладу жыцьця й магільшчыкаў сусьветнай сацыялістычнай сыстэмы – можна лічыць сапраўды дзіцячымі забавамі на фоне злавесных пакемонаў.
У выпадку з «Пакемонам» сытуацыя прынцыпова адрозьніваецца ад звычайных дзіцячых мульцяшак: упершыню ў гісторыі стаўка пачаткова ставіцца на гандаль іміджамі і папутнымі прадуктамі зь іх выявай, а мультфільмы ўяўляюць сабой сродак павелічэньня аб'ёмаў продажу, што й патрабуецца ад рэклямы. Аб'ектам паляваньня «Пакемона» зьяўляюцца кішэні юных гледачоў, бо створаныя аніматарамі мілыя істоты-мутанты – сапраўднымі фінансавымі монстрамі.
Маркетынг і мэтады распаўсюду новага «прадукту» выдаюць аўтараў і заказчыкаў гэтай зброі – Пэнтагон, які з дапамогай адмысловых высокачастотных рэзанансаў настройвае біятокі нашых мазгоў на натаўскую хвалю.


*Гэты на першы погляд мілы пакемон Пікачу і стаўся віноўнікам «тэлеэпілепсіі»*

«Куды глядзяць беларускія спэцслужбы? Дзе адказныя меры?» – запатрабуе наіўны неспакушаны ў высокіх тэхналёгіях чытач.
Усё ня так проста. Вызначыўшы крыніцу тэлепсыхаагрэсіі, мы ня здольныя на адказны ракетны ці бактэрыялягічны ўдар. Мяркуйце самі: ці ў стане спэцслужбы Беларусі прадаваць у цацачных крамах ЗША капсулы зь вірусам, напрыклад, сібірскай язвы, калі эканамісты з КДБ дасюль ня здолелі наладзіць нават гандаль семкамі ў Менску? І я пра тое ж●

**Язэп Тамагочы,**
электронік

# Булава Гетмана

### (інтэрактыўная аповесьць)

**II.**

Пасьля выхаду на пэнсію пан Ст'анкевіч вёў жыцьцё сялянскага пустэльніка і аскета, і толькі зрэдку ягоны спакой парушаўся візытамі людзей, што трапілі ў бяду і шукалі дапамогі. За невялікую ўзнагароду па старой памяці былы копны судзьдзя дапамагаў сваім суграмадзянам у далікатных крымінальных справах. Вось і цяпер, жнівеньскай раніцай, сон яго быў перарваны грукатам у дзьверы й грамападобнымі крыкамі: «Адчыняй, Андрэй! Схізматы побач!»
Пан Ст'анкевіч зь неахвотай узьняўся з ложку і, уздыхаючы, накіраваўся да дзьвярэй: «І прынесьлі ж яго чэрці!»
Павятовы ваявода палкоўнік Сьліва ўварваўся ў хату, як ураган. У свае пяцьдзясят зь невялікім палкоўнік выглядаў як парэпаны сымбаль Рэнэсансу: салідная некалі постаць, рэдкія сівыя валасы да плеч ды чырвоны нос, які меў цікавую асаблівасьць зьмяняць адценьне ў залежнасьці ад колькасьці выпітай гарэлкі.
Сьліва, у цьвярозым стане даволі ўраўнаважаны чалавек, зараз быў нечым узбуджаны:
– Злодзеі, схізматы! Абрабавалі, забілі!
– Каго забілі? Каго абрабавалі? Сядай, распавядай усё падрабязна, – Ст'анкевіч паспрабаваў супакоіць свайго сябра, але гэта ў яго дрэнна атрымалася.
– Учора ў маіх Ніжніх Жабках спыніўся гетман Галапупенка з казачкамі. Яны едуць да караля ў Кракаў з пасольствам ад Запароскай Сечы. Ну, сустрэў я іх, як мае быць, «Зубровачкай» пачаставаў. Спаць ляглі, а раніцай прачынаемся: ад'ютант гетмана ляжыць мёртвы, а гетманская булава – знак вярхоўнай улады – зьнікла. Міжнародны канфлікт! Казачкі адразу ў лямант, вінаватых шукаць. Лейбу, карчмара нашага, адразу на кол пасадзілі, дзікуны: «Гэта ты, маўляў, жыдок, нас учора напаіў, а сам ноччу і абрабаваў!» Булаву так у яго й не знайшлі, затое дукатаў мяшок забралі. Ён, бач ты, ліхвярствам прабаўляўся. Ну я, зразумела, адразу да цябе. Я так мяркую, што гэта ўсё тыя навамодныя схізматы-пратэстанты. Толькі вось дзе іх шукаць? Што рабіць? Ня ведаю. Дапамажы, Андрэй! Аддзячу як мае быць. Прэзэнтую табе мой лужок, што на Імшарах, толькі знайдзі булаву!
– Хадзем, – Ст'анкевіч, апранаючыся на хадзе й прышпільваючы да поясу стары, зазубраны аб галовы маскавітаў палаш, рашуча накіраваўся насустрач невядомаму...

**IIX.**

Гетман Галапупенка, са сваім казацкім чубам і вусамі, як у Тараса Бульбы, нагадваў раньнія фотаздымкі Багдана Хмяльніцкага, калі той яшчэ піў медавуху і ў думках ня меў кадзіравацца і яднацца з Масквой. Гетман ужо з раніцы пасьпеў наведаць вінны склеп гаротнага Лейбы і таму на ўсе пытаньні пана Ст'анкевіча аб зьніклай булаве адказваў:
– Куди ж воно ділосьі Вражі ляхи, скажені собаки! Буду різати, вішати та мордувати![1]

[1] «Ня маю нават уяўленьня, дзе я мог згубіць сваю булаву. Але ў мяне ёсьць падазрэньне, што гэта інтрыгі польскіх спэцслужбаў! У такім выпадку гэта пагражае вам, спадарства, вялікімі непрыемнасьцямі». (укр.)

**Заданьні чытачам:**
1. Хлопчыкі і дзяўчынкі, намалюйце галоўных герояў аповесьці.

2

# SCORPIONS і Фінбэрг?



Мода на выкарыстаньне аркестраў рок-гуртамі даўно й безнадзейна мінула. У свой час, калі запісацца са сворай лабухоў лічыў за гонар кожны салідны пацан, гэтым балаваліся бітлы, ролінгі ды іншыя дып-пёплы. Нават тармазнутая METALLICA два гады таму нарэшце прапёрла фішку і прапісалася з сымфанічным аркестрам венскага лістапракатнага цэху.
Але выкарыстоўваць рокераў для разагрэву сымфанічнага аркестру яшчэ ніхто не даўмеўся. Тут беларусы сталі першымі. На чале сьмелага творчага экспэрымэнту стаў маэстра Фінбэрг, які славіцца сваімі авангарднымі сымфоніямі. Пасьля перасьцёбу бітлоўскай і джазавай спадчыны старычка прабіла на сапраўдны драйв. Вынікам стала адвязная хард-рок-опэра «Фінбэрг, сэкс і рок-н-рол».
Але ўвесь склад аркестру ня здолеў выканаць шызовых запатрабаваньняў майстра.
Рэпэтыцыя новых опусаў ледзь ня скончылася забастоўкай скрыпачоў і жалеечнікаў. Сапраўды, які ж музыка з 10 гадамі кансэрваторыі і пяцігодкай працы ў самога Фінбэрга (!) сьцерпіць гульню ня ў такт, пабудаваную на відавочных дысанансах з дысгармоніямі? А што ўжо казаць пра вакальныя партыі, для выкананьня якіх Іну Афанасьеву ці Натальлю Тамелу прыйшлося б паўгады паіць чыстым сьпіртам і прымушаць слухаць Высоцкага...
Сьмелы экспэрымэнт быў ужо пад пагрозай, каб маэстра не прыйшла у галаву рэвалюцыйная ідэя выпісаць для ўдзелу сапраўдны рок-гурт. Іншага выйсьця папросту не было. На шчасьце пад руку патрапілі беспрацоўныя лабухі са SCORPIONS – ідэальны варыянт. Па-першае, яны ня маюць кансэрваторскіх закідонаў. Па-другое, яны ўвогуле ня ведаюць нотаў і ня ўмеюць чыста сьпяваць. Па-трэцяе, яны й граць як сьлед ня ўмеюць. За прымальныя бабкі й піва нямецкія абалдуі з энтузіязмам згадзіліся адлабаць разам зь Фінбэргам. Што з гэтага атрымалася – можна будзе пабачыць у комплексе «Заря» 19 сакавіка (вядома, калі музыкі не набухаюцца і пасьпеюць адстроіцца). Размах беларускага экспэрымэнтатара ўражвае сваёй фундамэнтальнасьцю і выклікае цікавасьць наконт далейшых творчых плянаў. Паводле меркаваньняў музычных экспэртаў, чарговы опус Фінбэрга будзе зроблены ў стылі панк-року з удзелам узьяданых SEX PISTOLS●

**Джон Ліндан**

# Бульба са смакам картоплі

(лацінаамэрыканскі эпас)


22 чэрвеня 1941 году. Патагонія. Гасьенда буйнога лятыфундыста дона Канальяса








Дон Канальяс разам дачкой накіраваўся ў Эўропу прыкупіць дзясятак нявольнікаў



Менск, вул. Ніцшэ-38. Рэзыдэнцыя гаўляйтэра Вільгельма Кубэ


















Цэнтральны Старажоўскі нявольнічы кірмаш






Камсамолец Васіль ня вытрымаў зьдзеку й цапнуў дона за палец





Васіль з таварышамі трапіў у далёкую Патагонію. Пачаліся цяжкія працоўныя будні на плянтацыях соевага мяса.



Ірмгардт таксама было ня лёгка. Маленькія радасьці з Канальесам не прыносілі ёй асалоды


Ірмгардт сумуе аб сваім каханку і піша яму лісты.

*Любий мій Остапе, чому я не сокіл, чому не могу долетіти до тебе! Як мені шкода, що не могу бачити цих більшовиків, котрих ти заморджував*


Аднойчы дон Канальяс зладзіў вечарынку ў сваёй гасьендзе з нагоды 15-годзьдзя сваёй адзінай дачкі Хуаніты. Віно лілося ракой.



Добра падпіўшы, Ірмгардт вырашыла шукаць экзатычных забаваў у халупе рабоў



Але Васіль быў хлапцом з высокімі маральнымі прынцыпамі





Васілю прызначылі экзэкуцыю і кінулі пад палячым сонцам





І Хуаніта з Васілем кінуліся ў сэльву на сустрач невядомаму

**Працяг будзе…**